# Ніва

**БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК**

№ 17 (1261) ГОД XXV БЕЛАСТОК, 27 КРАСАВІКА 1980 г. ЦАНА 1 ЗЛ.



### ВЯСНА-80

Назіралі мы за падрыхтоўкай да вясны вачыма ваяводскай сельскагаспадарчай службы, а таксама і з дырэктарскіх кабінетаў на прадпрыемстве „Цэнтраля насенная“, дык варта цяпер зыйсці крыху ніжэй — на ўзровень гміны.

Магістр інжынер **Ян Поляк** ужо шмат гадоў кіруе адной з буйнейшых гмін на Беласточчыне — Заблудаўскай гмінай.

— Як гміна падрыхтавалася да вясны, на сустрэчу новага ўраджаю? — пытаю.

— Здаецца, нядрэнна. Шкада, што няма кіраўніка сельскагаспадарчай службы, ён дакладней бы ўсё гэта вам расказаў. Але ён зараз у водпуску, — гаворыць начальнік.

— Дык што, без кіраўніка сельскагаспадарчай службы мы не абыдземся?

— А чаму ж не, — усміхаецца начальнік. — Трэба ж, каб чалавек калікалеч адпачыў. А то як толькі машыны выйдуць у поле і аж да ўборкі апошніх кораняплодаў не будзе яму адпачынку. Наша сельскагаспадарчая служба працуе круглы год.

— Нават зімой?

— Нават зімой, — пацвярджае начальнік. — Вось толькі што закончылі мы тэарэтычную падрыхтоўку сялян да ажыццяўлення новых, павышаных планаў па сельскагаспадарчай вытворчасці.

— А як бы гэта сказаць прасцей...



## Зялёнае золата

— ...выйшла б тады тое ж самае, а менавіта дзве асноўныя праблемы горада і гміны Заблудаў: **паша** і **жывёлагадоўля**. Без пашы няма жывёлагадоўлі і наадварот — добрая гадоўля магчыма толькі тады, калі гаспадар забяспечыць уласныя кармы. Гэтую праўду на зімовых курсах намагаліся перадаць сялянам працаўнікі нашай сельскагаспадарчай службы...

Тут я якраз успомніў падобныя па зместу словы намесніка беластоцкага ваяводы па сельскагаспадарчых справах доктара **Мікалая Гапуніка,** які выступаў у Бранску перад сялянамі, удзельнікамі конкурсу пад лозунгам „Кармы, як золата“. Адкуль гэтае **зялёнае золата** ўзялося? А вось адкуль:

— Удзельнікі конкурсу, — гаварыў ён, — прымянілі ў сярэднім па 370 кг хімічна чыстага рэчыва мінеральных угнаенняў на кожны гектар сенажацяў і па 410 кг НПК на пасбішчы. У выніку гэтага атрымалі яны па 90 цэнтнераў сена з кожнага гектара і па 420 цэнтнераў сакавітай зялёнай травы на пасбішчах. Быў гэта ўраджай на 20 цэнтнераў большы ад сярэдняга для ўсяго ваяводства, калі справа адносіцца да сена, і амаль на 200 цэнтнераў вышэйшы ў зялёнай масе на пасбішчах. Гэтыя паказчыкі і параўнанні красамоўна нас пераконваюць у тым, як можна дабіцца прагрэсу ў развіцці сельскагаспадарчай вытворчасці за адносна кароткі перыяд часу.

Доктар Мікалай Гапунік гаварыў тады яшчэ аб многіх іншых важных і павучальных справах, напрыклад, адзначыў, што найбольш эфектыўнымі з пункту гледжання іх кармавых вартасцей з'яўляюцца ва ўмовах Беластоцка-

(Працяг на стар. 4)

### КАВАЛЕР ОРДЭНА АДРАДЖЭННЯ ПОЛЬШЧЫ



## Які дарогі!



Усё пачынаецца з дарогі. Якая б яна не была, доўгая ці кароткая, яе трэба прайсці ці праехаць. Дарога вядзе на працу, у горад, у свет. І кожны сваімі дарогамі крочыць. Бо кожная жыццёвая дарога іншая, своеасаблівая, пасвойму цікавая. І пачынаецца яна ад школы. Цяпер цяжка сабе ўявіць, што яшчэ не так даўно, пры санацыйнай Польшчы, маса людзей было непісьменных, а сем класаў пачатковай школы ў вёсках мала хто заканчваў. Былі гэта адзінкі.

Гэтак было і ў Грабаўцы, што каля Дубіч Царкоўных. Сем класаў пачатковай школы закончыў толькі Шымон Шыманюк, і то аж у тры мясцовасці хадзіў. У Грабаўцы не было школы. Чатыры класы было ў Дубічах Царкоўных. У пяты і шосты клас хадзіў у Кляшчэлі, а ў сёмы клас — у Орлю. Такім чынам школьная дарога не была лёгкая. Хацеў ён вучыцца далей у вайсковай школе. Але дзе там! Не прынялі. Бацька быў камуністам, якога праследавалі і судзілі.

Бацька быў вязнем Картуз-Бярозы, перажыў шмат здзекаў. Але дачакаўся вызвалення. Савецкая Армія выпусціла іх на свабоду. Важыў ён тады толькі 42 кг. Асталася скура і косці. А ў часы савецкай улады на Беласточчыне бацька стаў мясцовым дзеячом, а Шымон Шыманюк заканчвае няпоўную сярэднюю школу. Там, у школе, уступае ў рады Камсамола, выконвае адказныя даручэнні, плануе вучыцца далей.

Але мірнае жыццё перарвала вайна. Наступіла нямецкая акупацыя. 10 кастрычніка 1941 года Шымана Шыманюка забіраюць немцы на прымусовыя работы. Працуе ён у бауэра пад Ганoверам.

(Працяг на стар. 4)

## ХРОНІКА

■ Вітаўскі гурток БГКТ (гміна Дубічы Царкоўныя) на сваім справаздачна-выбарным сходзе, абмеркаваўшы яго дзейнасць, выбраў новае праўленне ў складзе: Марыя Назарук — старшыня, Ольга Петручук — намеснік старшыні, Тамара Данілюк — сакратар, Надзя Нічыпарук — скарбнік, Вера Дзік — член праўлення.

■ Зубаўскі гурток БГКТ (гміна Бельск) у склад новага праўлення выбраў: Мікалая Сельвеструка — старшынёй, Мікалая Вязоўскага — намеснікам старшыні, Аляксея Паўлючука — сакратаром і Надзею Петручук — скарбнікам і адначасова дэлегатам на з'езд БГКТ.

■ У Карыціскаx (гміна Дубічы Царкоўныя) бэгэкатоўцы пастанавілі прыняць удзел у грамадскім пачыне на карысць вёскі супольна з усімі яе жыхарамі. У праўленне ўвайшлі: Масальскі Уладзімір — старшыня, Ніна Дарашук — намеснік старшыні, Міхась Патэюк — сакратар, Міхась Дарашук — скарбнік і Мікалай Абрамюк, Міхась Данілюк, Аляксей Томчук, Рыгор Томчук — члены праўлення. У гэтым гуртку 31 член.

■ На справаздачна-выбарным сходзе ў Махнатым (гміна Гайнаўка) ў дыскусіі выступілі: Павел Трафімюк, Іван Герасімюк, Мікалай Трафімюк, Ніна Катушэўская і іншыя. Гаварылі яны аб патрэбе актыўнейшай дзейнасці гуртка, аб сустрэчах з журналістамі „Нівы“ і літаратарамі з клуба „Белавежа“. Гурток звяртаецца з просьбаю да ГП БГКТ, каб сваёй кінаперасоўкай паказвалі ў іх савецкія фільмы. Новае праўленне: Іван Герасімюк — старшыня, Павел Трафімюк — намеснік старшыні, Вольга Лаеўская — сакратар, Аляксей Кот — скарбнік, Марыя Сельвясюк, Іван Кот, Марыя Герасімюк — члены праўлення. У гуртку налічваецца цяпер 35 членаў.

■ Гурток БГКТ у Збучы (гміна Чыжы) складаецца з 39 асоб. Абмеркаваўшы формы працы гуртка і статутовыя яго абавязкі, прысутныя выступілі з прапановаю, каб у бягучым годзе ГП БГКТ арганізавала народны фэстын каля іх вёскі ва ўрочышчы „Грабняк“. Затым выбралі яны новае праўленне ў складзе: Раман Герман — старшыня, Ала Карпюк — намеснік старшыні, Мікалай Брук — сакратар, Васіль Ваўрэшук — скарбнік, Аліна Юшкевіч — член праўлення.

■ Члены гуртка ў Агародніках (гміна Бельск) у дыскусіі над далейшай працай гуртка закранулі наступныя справы: упарадкаванне святліцы і акружаючага яе пляца, патрэбу арганізавання ў іх вёсцы клуба маладога селяніна, недастатковыя ўмовы для спартыўнай дзейнасці моладзі і адсутнасць дзіцячай пляцоўкі. 10 чалавек падпісала членскія дэкларацыі. А вось новае праўленне: Аліна Грыгарчук — старшыня, Яўген Лаўрэнюк — сакратар, Валянціна Юрчук — скарбнік.

■ У Піліпках (гміна Бельск) моладзь часта арганізуе ў сваёй святліцы (яе тут будавалі сваімі рукамі) танцавальныя вечарыны. Выказала яна жаданне, каб у іх вёску прыехаў харавы калектыў БГКТ, а таксама, каб наведвалі беларускія літаратары з аб'яднання „Белавежа“. Выбралі яны праўленне з наступных асоб: Галіна Яканюк — старшыня, Яўгенія Флёрчук — намеснік старшыні, Ніна Герасімюк — сакратар, Іван Захарчук — скарбнік.

■ У Катлах справаздачна-выбарны сход адбываўся пад старшынством Галены Мацеюк. З дакладам выступіў Іван Валасовіч. Былі падсумаваны дзейнасць гуртка і праблемы, якія нуртуюць моладзь. Да іх належаць: месцы працы на прадпрыемствах, умовы для спартыўнай дзейнасці, а таксама даезд моладзі ў школу. 9 асоб было прынята ў БГКТ. Новае праўленне выбрана ў наступным складзе: Галена Мацеюк — старшыня, Іван Валасовіч — намеснік старшыні, Аліна Заброцкая — сакратар, Ірына Пацэвіч — скарбнік, Іван Мінкевіч, Юрка Захарчук, Мікалай Калішэвіч — члены праўлення, а дэлегатам на з'езд выбраны Мікалай Палікатус.

■ У планах працы гуртка БГКТ у Плёсках, прынятым на справаздачна-выбарным сходзе, ёсць такія справы: Пасадзіць у сваёй вёсцы 50 дэкаратыўных дрэўцаў, дапамагаць старым адзінокім людзям, выконваючы некаторыя работы так званай „Рукі-невідзімкі“, арганізаваць танцавальныя, безалкагольныя вечарыны. У праўленне выбраны: Яўгенія Ляшэўская — старшыня, Ірына Каліноўская — намеснік старшыні, Валянціна Максімюк — сакратар, Раіса Абрамюк — скарбнік і Анатоль Тарасюк — член праўлення.

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### „МІНСК“ — ПАПУЛЯРНАЯ МАРКА

Новая хатняя „фабрыка холаду“ ўжо атрымала імя — „Мінск-19“. Гэты халадзільнік адрозніваецца ад папярэдніх тым, што некаторыя яго сценкі, у прыватнасці задняя і верхняя, будуць выраблены з... паперы. Але па трываласці ён ніколі не ўступіць ужо вядомым маркам апаратаў Мінскага завода. Трываласць забяспечыць металічныя нясучыя канструкцыі, а цеплаізаляцыю — слой пенапаліўрэтану. Аб'ём „Мінска-19“ цалкам задаволіць пакупнікоў — 300 літраў.

### МІЛЬЯРДНАЯ КНІГА

На Мінскім паліграфічным камбінаце імя Якуба Коласа выпушчана мільярдная кніга. Юбілейным выданнем аказалася „Кароткая энцыклапедыя Беларускай ССР“, том I. Яна назаўсёды зойме ганаровае месца ў музеі прадпрыемства.

Цяпер з паточных ліній камбіната штодзённа сыходзіць да 200 тысяч экземпляраў кніг і брашур.

### КАМБІНАТЫ ЗДАРОЎЯ

Вялікую папулярнасць у жыхароў Гродна заваяваў фізкультурна-аздараўленчы камбінат, створаны пры домакіраўніцтве № 5. Абанементамі камбіната здароўя карыстаюцца ўжо сотні гараджан. Да іх паслуг — пункты пракату спортінвентару, залы лячэбнай фізкультуры, масажны кабінет, сауны.

Камбінаты здароўя цяпер ствараюцца пры домакіраўніцтвах у многіх гарадах Беларусі.

### *КАЛЯНДАР*

**160 гадоў назад**

27.4.1820 нар. Г. Спенсер, англійск філосаф, адзін з заснавальнікаў пазітывізму.

**80 гадоў назад**

28.4.1900 пам. Ф. Багушэвіч, беларускі паэт, пачынальнік крытычнага рэалізму ў беларускай літаратуры.

* * * * * * * * *

28 IV 1910 г. „Наша ніва“ паведамляла:

**В. Макаўляны,** Гродз. губ. Сакольскага пав. У гэтай вёсцы жывуць беларусы, каторыя аб тым, што прыналежаць яны да вялікага беларускага народу, хіба ніколі і не чулі. I не дзіва: веры ў карысць навукі паміж імі няма дык і сідзяць у цемнаце. Калі што і чутно аб макаўлянцах, то толькі тое, што каго-колечы прыбілі, або і на смерць затаўклі.

**Пецярбург.** Ад новага году да 1 красавіка ваенна-акружныя суды прыгаварылі на смерць 160 душ. За адзін сакавік прыгавораў на смерць было 99, сказнілі — 16.

Рэдактараў газет за мінуўшы месяц аштрафавалі 19 — разам на 6 тысяч 200 рублёў.

За ўвесь леташні год прыгавораных на катаргу было 20 тысяч 936 душ, а ў 1908 гаду — усяго 12 тысяч 591.


**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku. Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch” oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 52 zł. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie nr 1153-201045-139-11.

B.Z.Graf. Zam. 673. Nakład 7.000 I-2






*Л. Ючковіч. Маляваны дыван „Кветкі“. Фота М. Раманюка.*

## МІНСКІЯ СУСТРЭЧЫ

# Асноўнае—беларуская культура

У кнізе „Развіццё беларускай савецкай фалькларыстыкі“ **Анатоль Сямёнавіч Фядосік** піша: *„З утварэннем у 1957 г. у складзе Акадэміі навук БССР Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору з сектарам фальклору ў ім у рэспубліцы з'явіўся навуковы цэнтр, які ўзначальвае ўсю даследчую работу ў галіне беларускай народнай творчасці і каардынуе дзейнасць фалькларыстаў рэспублікі. З таго часу даследаванні ў галіне беларускай фалькларыстыкі праводзяцца сістэматычна і мэтанакіравана ў трох аспектах: падрыхтоўка да выдання зводу беларускай вуснапаэтычнай творчасці, экспедыцыйныя даследаванні з мэтаю вывучэння і збору фальклорных матэрыялаў, тэарэтычнае вывучэнне паэтычнай спадчыны беларускага народа“.*

Мне пашанцавала. У гэты ж Інстытут я трапіў на заканчэнне рабочай нарады працаўнікоў сектара фальклору, якую вёў якраз намеснік дырэктара Інстытута А. С. Фядосік, і меў магчымасць асабіста пазнаёміцца з многімі віднымі беларускімі фалькларыстамі, сярод іх — М. Я. Грынблатам, А. С. Лісам, I. К. Цішчанкам, а таксама з маладымі энтузіястамі вывучэння беларускай вуснай народнай творчасці.

Калі ўсе бягучыя справы былі ўладкаваны і дырэктарскі кабінет паволі апусцеў, А. С. Фядосік спрабаваў пазнаёміць мяне з самымі галоўнымі напрамкамі навуковай і выдавецкай дзейнасці Інстытута:

— Вядома, усяго, нават найважнейшага, што ёсць на рахунку нашых навуковых працаўнікоў — дзесяткаў даследаванняў, зборнікаў і іншых работ — немагчыма пералічыць. Цяпер мы канцэнтруемся на тым, каб давесці да канца выданне больш 30 тамоў фундаментальнага зводу „Беларуская народная творчасць“, які пачаў выходзіць у 1970 г. і дагэтуль паявілася каля 20 тамоў. Гэты шматтомны збор беларускага фальклору адлюструе велізарнае багацце славеснай, музычнай, песеннай і тэатральнай творчасці беларускага народа. Звод — плён многіх год самаахвярнай і цярплівай працы дзесяткаў нашых вучоных. Варта заўважыць, што ў іншых краінах няма яшчэ такіх выданняў, і беларуская фалькларыстыка заслужана можа ганарыцца ажыццяўленнем такога пачыну. Працу над падрыхтоўкай усяго зводу мы павінны закончыць у 1985 годзе. Сектар фальклору нядаўна заняўся падрыхтоўкай 3-томнай „Гісторыі беларускай фалькларыстыкі“, яе першы том павінен выйсці праз тры гады.

— Анатоль Сямёнавіч, а што ў даследаваннях іншых дзялянак культуры беларускага народа?

— Таксама як сектар фальклору, актыўна працуюць іншыя сектары нашага Інстытута. Сектар выяўленчага мастацтва, напрыклад, ужо падрыхтаваў першы том „Гісторыі беларускага мастацтва“. Бадай не трэба паясняць, што гэтае 6-томнае выданне будзе праўдзівай энцыклапедыяй па беларускаму мастацтву ад старажытнасці да сучаснасці. Сектар збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі працуе над 7-томным спецыяльным выданнем, якое ахопіць усе асноўныя помнікі гісторыі і культуры на беларускіх землях, пачынаючы, так сказаць, ад сівой курганнай мінуўшчыны. У сектары тэатра і кіно рыхтуецца 4-томная „Гісторыя беларускага тэатра“. Музыказнаўцы ж займаюцца праблемамі народнай і прафесіянальнай музыкі, між іншым, даследуюць гісторыю беларускай музыкі, народную музычную творчасць паасобных рэгіёнаў. Этнографы пасля выдання манаграфічных даследаванняў „Беларускае народнае жыллё“, „Беларускае народнае адзенне“ і іншых цяпер заняліся сучаснай праблематыкай. У тым сектары, між іншым, працуе вельмі актыўная група антраполагаў, якая з дасканалымі вынікамі займаецца антрапалагічнымі даследаваннямі Палесся. Працаўнікі сектара кінематаграфіі і тэлебачання вывучаюць ролю ў грамадскім жыцці гэтых відаў мастацтва. Як бачыце, абсяг праблем, якімі займаецца наш Інстытут, вельмі шырокі.

— Ці ў Інстытуце кранаецца таксама праблематыка ўзаемасувязей культуры беларускага народа з культурамі іншых народаў?

— Так, ды шырокім фронтам! Гэтым займаецца значная група нашых вучоных. Фалькларысты, напрыклад, працуюць над такой тэмай, як „Параўнальнае вывучэнне беларускага фальклору ў яго славянскіх узаемасувязях“, рыхтуюцца таксама манаграфіі такога тыпу, як „Беларуская народная паэзія веснавога цыкла і славянская фальклорная традыцыя“, „Беларуская народная балада ў міжславянскіх узаемаадносінах“ і шэраг іншых. Не будзе перабольшаннем, калі скажу, што вывучэнне культуры беларускага народа знаходзіцца цяпер на самым высокім уздыме.


**(Працяг на стар. 5)**





**Войшкі ● Выбралі спецыялізацыю ● Гасцей Алімпіяды прымае „Інтурыст“ ● Літаратурная старонка ● Буг у агні ● Якія мы людзі — адказвае Дзядзька Квас ● Весткі з Орлі, Гайнаўкі, Бельска, Чаромхі, Дубіч Царкоўных ● Калі сняцца пазногці ● Доктар Знахарук ● Песня „Pamiętam ciebie z tamtych lat“.**




**NIEDZIELA 27 IV** — 6.15 TTR i RTSS — J. pol. sem. II. 6.45 Fiz. sem. IV. 7.20 Nasze spotkania. 7.40 Now. w domu i zagr. 8.10 Emerytury dla rolników. 8.20 Telewizjada. 8.55 Program dnia. 9.00 Teleranek oraz Tajemniczy ogród — film ang. 10.20 Antena. 10.45 Album Polski — cz. I pt. „Maria” — pol. film fab. 11.50 Dziennik. 12.05 Rolnicze rozmowy. 12.35 Tylko w niedzielę. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.10 Tylko w niedzielę — c.d. — Kariera Nikodema Dyzmy — film TP.

**PONIEDZIAŁEK 28 IV** — 12.45 TTR i RTSS J. pol. sem. IV. 13.25 Geogr. sem. IV. 15.20 Program dnia. 15.25 NURT — Naucz. począt. kl. III. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Zwierzyniec. 16.55 Dzień dobry w kręgu rodziny. 17.30 Ucieczka z krainy złota — odc. VI filmu TV CSRS. 18.30 Studio Młodych. 18.50 Dobranoc. 19.00 Echa stadionów. 19.30 Dziennik. 20.10 Teatr TV na świecie — James Bridie — Laurowa Daphne. 21.35 Świat i Polska. 22.20 Dziennik. 22.35 Proscenium.

**WTOREK 29 IV** — 6.00 TTR i RTSS — J. pol. sem. IV. 6.30 Geogr. sem. IV. 11.05 Dla szkół — Czerwone, żółte, ziel. 12.55 Pr. dla szkół śred. I—II lic. 14.00 Chemia sem. II. 15.20 Program dnia. 15.25 Klub Seniora. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Dzień dobry w kręgu rodziny. 16.55 Kineskop. 17.25 Sonda. 17.50 Studio Młodych. 18.10 Austrotten — Wytępić. 18.40 Radzimy rolnikom. 18.50 Dobranoc. 19.00 Ex Libris. 19.30 Dziennik. 20.10 Joe Hill — szw. film fab. 22.10 Świadkowie. 22.30 Camerata. 22.55 Dziennik.

**ŚRODA 30 IV** — 6.00 TTR i RTSS — Mat. sem. II. 6.30 Chem. sem II. 11.05 Dla szkół — Hist. kl. VII. 12.00 Fiz. kl. VII. 15.20 Program dnia. 15.25 NURT — Ped. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Dla dzieci. 16.55 Los. małego i express lotka. 17.05 Dom i my. 17.15 Dzień dobry w kręgu rodziny. 17.35 Skarbiec. 18.10 Bieriozka — pr. rozr. 18.30 Studio Młodych. 18.50 Dobranoc. 19.00 Szturm Berlina — pr. film. 19.30 Dziennik. 20.10 Dzień oczyszczenia — pol. film fab. 21.55 XYZ — cz. I. 22.25 Konfrontacje. 22.45 XYZ — cz. II. 23.15 Dziennik.

**CZWARTEK 1 V** — 8.40 Program dnia. 8.45 Dziennik. 9.00 Trans. z uroczystości pierwszomajowych. 15.00 Majowa estrada folkloru. 15.55 Rzeczpospolita babska — pol. film fab. 17.45 Opowieść o Alpejskiej Dolinie — ang. film dok. 18.20 Teatr TV — Jan Rybowicz — Najpiękniejsze opowiadanie świata. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.10 Koncert 1-majowy. 21.05 Małżeństwo po włosku — włosko-franc. film fab.

**PIĄTEK 2 V** — 11.05 Dla szkół — Praca — Technika — kl. I. 12.00 Geogr. kl. VI. 13.25 TTR — Uprawa rośl. sem. IV. 14.00 Mech. rol. sem. IV. 15.05 Red. szkol. zap. 15.20 Program dnia. 15.25 NURT — Ped. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Piątek z Pankracym. 16.55 Magazyn motor. 17.15 Dzień dobry w kręgu rodziny. 17.35 Studio Młodych. 17.55 Czterdziestolatek — odc. XIII pt. „Kozioł ofiarny czyli rotacja” — film TP. 18.50 Dobranoc. 19.00 Album z piosenkami. 19.30 Dziennik. 20.10 Siła strachu — film TV ang. 21.55 Pegaz. 22.40 Kronika Mistrzostw Europy w podnoszeniu ciężarów. 23.00 Dziennik.

**SOBOTA 3 V** — 6.00 TTR — Uprawa rośl. sem. IV. 6.30 Mech. rol. sem. IV. 11.05 Dla szkół — Geogr. kl. V. 13.25 Biolog. sem. II. 13.55 J. pol. sem. II. 14.35 Program dnia. 14.40 Radzimy rolnikom. 14.50 Obiektyw. 15.10 Dziennik. 15.25 Ostatni redyk. 16.10 Gwiazdozbiór — Marlena Dietrich. 17.00 I liga piłki nożnej. 18.00 Szanujmy wspomnienia — Halo! Tu mówi Warszawa. 18.50 Dobranoc. 19.00 W świecie dzikich zwierząt — Bóbr. 19.30 Dziennik. 20.10 Pogoda dla bogaczy — odc. V II części filmu TV ameryk. 21.05 Michel Jugain i Big Bazar — widowisko z paryskiej Olimpii. 22.15 Kronika Mistrzostw Europy w podnoszeniu ciężarów. 22.50 Co dalej laureacie — z Ewą Podleś rozmawia H. Czyż. 23.05 Dziennik. 23.30 Kino Nocne — Klaudyna odc. pt. „Klaudyna odchodzi”.

(is)




**Piątek 25 IV** — 9.05 Film fab. 16.10 Film fab. 19.05 Film fab.

**Sobota 26 IV** — 15.55 Nie do wiary. 18.50 Wieczór autorski R. Rożdiestwieńskiego. 22.00 Mistrz. ZSRR w gimnastyce.

**Niedziela 27 IV** — 13.00 Film fab. 16.40 Film anim. 17.00 Panorama międzynar. 19.00 Klub podróży. 20.35 Koncert chóru im. Piatnickiego.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыёперадача: субота 12.05 — 12.25 (UKF).**




**Białowieża** Idź do mamy, tata pracuje — fr. 29—30 IV. Pasikonik — radz. 1—2 V.

**Bielsk Podl.** Odrażający, brudni, źli — wł. 28—30 IV.

**Czyże** W cieniu legendy — węg. Amator — pol. 30 IV — 4 V.

**Hajnówka** I ty zobaczysz niebo — radz. 28 IV. Ojciec Sergiusz — radz. 29—30 IV. Normandia — Niemen — radz. 1—2 V.

**Michałowo** Panowie dbajcie o żony — fr. 29—30 IV. Święto dzikich zwierząt — fr. 1—2 V. Bez znieczulenia — pol. 3—4 V.

**Mielnik** Nie taki zły — fr. 30 IV. Sto koni do stu brzegów — pol. 3—4 V.

**Milejczyce** Szansa — pol. Cudowni mężczyźni z korbką — czes. 30 IV — 4 V.

**Narew** Umarli rzucają cień — pol. Alicja już tu nie mieszka — pol. 30 IV — 4 V.

**Narewka** Młody Frankenstein — USA Roman i Magda — pol. 30 IV — 4 V.

**Nurzec** Akcja pod Arsenałem — pol. 29—30 IV. Szczególny dzień — wł. 1—2 V. Jenny i Toby wśród dzikich zwierząt — USA 3—4 V.

**Orla** Śmiertelny pościg — fr. Ciepło — buł. 30 IV — 4 V.

**Rajsk** Na cichej stacyjce — węg. Zabójstwo chińskiego maklera — USA 30 IV — 4 V.




### „НА РЫНКУ Ў БЕЛЬСКУ“

Здаецца, што цікавага можна напісаць пра рынак? Нас больш цікавіць, што купіць на рынку можна па меншай цане. Для спекулянта цікава было б, як ашукаць няхітрага пакупніка. Кругом жа дзе не глянеш таргоўля ідзе ва ўсю. Людзі, як мошка.

Рудкоўскіна не цікавіць гэтая ярмарка, што вядзецца ад вякоў. Яго цікавіць яшчэ жывая ўчора гусь, якая сёння на рынку ляжыць ужо сіняя. Яго цікавяць негуманна забітыя куры. Не ведаю, як хто, але я асабіста не асмелюся зарэзаць гусь ці курку. Лепш з постам буду есці. Ды як хто да чаго здольны. Напэўна ёсць варварствам лавіць рыбу металічным спінінгам і сядзець над вадой з жывым чарвяком на кручку. Гэта добра, што рыба паразумнела і не так ужо пхаецца на кручок. Але ці паразумнела? Цяпер рыбы ў рэчках куды менш, як калісьці, да часу меліярацыі. Рыба гіне, бо не мае дзе зачапіцца. Усюды роўна цячэ вада і леткам яе „жабе па калена“. Добрае гіне, прападае, а вось шкоднікі, як мышы ці пацукі, лік іх узрастае і ніякія сродкі не дапамагаюць. Нават іх ворагам-катам горш жывецца, бо як пойдзе ў поле такі на прагулку, паляўнічы яго застрэліць. А ці ж кот не мае права выйсці леткам на рэчку ці ў поле? Ён жа наш верны і сімпатычны сябра.

Наконт прапановы Рудкоўскіна адносна гуманнага забівання хатняй жывёлы — лічу яе вартаснай і добрай. У гэтым сапраўды павінна быць зацікаўлена Таварыства аховы жывёлы, якое павінна час ад часу прадстаўляць людзям свае погляды і веды, нават на старонках „Нівы“.

**М. Панфілюк**

✲

Хачу і я ўключыцца ў дыскусію, якую ўзняў Рудкоўскін у сваім нарысе „На рынку ў Бельску“. Менавіта хачу звярнуць увагу на нашых паляўнічых, якіх лічу браканьерамі (клусоўнікамі) № 2. А таму, што забіванне дзікай жывёлы нашымі паляўнічымі не мае ніякіх адносін да гуманнасці.

Прыклад 1. Параненага зайца даганяе нагоншчык, бярэ яго за заднія ногі і дабівае аб зямлю галавою. Прыклад 2. Па лузе ходзяць і скубаюць траву дзве казулі. Па гасцінцы, званым дубяжынскім, набліжаецца легкавая машына. Спыняецца і выходзіць мужчына са стрэльбай. Пад аслонай хмызняку страляе — і адна серна падае, а другая скручваецца з болю. Другі стрэл — і падае другая серна. З машыны выскаквае другі мужчына з жанчынай, хапаюць і цягнуць серну. Ці ж гэта можна назваць гуманнасцю? А колькі гіне параненых зайцаў? Іх разрываюць сабакі, іх клююць вароны. Многія ў нас называюць гэта спортам, але мне асабіста здаецца, што тут з усёй яскравасцю выступае іншая рыса чалавека: яго бесчалавечае забіванне для прыемнасці.

**Валянцін Семянюк**

✲

Інж. Б. Ф. Рудкоўскін у сваіх „Запісках натураліста“ ў артыкуле „На рынку ў Бельску“ пісаў, што ў торговыя дні на рынку ў Бельску жанчыны прадаюць пасінелых гусей і спячых кур. Гэта праўда! Але яшчэ аднаго не заўважыў аўтар. Колькі яшчэ курак убачыць можна за стаянкамі фурманак, якіх ужо не можна прадаць. Ляжыць іх тут дзесяткі, абяздоленых, расчаперыўшых крылы. Часам збіраюць іх варшаўскія гандляры, скручваюць ім галовы і хаваюць у палатняныя торбы. А калі ж гаспадар есць кураціну? Калі курка даходзіць, або калі гаспадар даходзіць.

Далей інж. Рудкоўскін звяртае ўвагу на бесчалавечнае забіванне жывёлы ў хатніх умовах. Правільна. Але? Ці ж адну курку або гусь панясеш у мясакамбінат, каб там забілі? Іншая справа са свіннямі. І то не ва ўсіх выпадках. Па-першае, хто з вёскі павязе свінню ў горад, каб там днямі стаяць у чарзе?.. Вось прайшло свята. Кожны дзень забівалі сотні штук жывёлы. Горад Бельск не мае магчымасці, каб рабіць гэта адразу. А чалавеку хапае па самыя вушы таго, што ён начакаецца ў лекара ветэрынарыі, пакуль той праверыць ужо гатовы кавалачак мяса. Можа я дрэнна зразумеў Рудкоўскіна,

(Працяг на стар. 7)



(Працяг са стар 1)




На прымусовых работах шмат было і савецкіх палонных. З імі дзяліў ён і гора, і своеасаблівыя радасці. А найбольшай радасцю было вызваленне іх заходнімі арміямі, заканчэнне вайны, адпраўка яго разам з былымі савецкімі палоннымі ў савецкую зону Германіі. Там уключаюць Шымана Шыманюка ў запасны полк Савецкай Арміі. Вяртаецца ён дамоў у пачатку жніўня 1945 года. На Беласточчыне ў гэты час умацоўвалася маладая народная ўлада, якая вяла барацьбу з рэакцыяй, з узброеным падзямеллем. Неабходныя былі кадры, адданыя народнай уладзе, ва ўсіх установах.

Шымон Шыманюк восенню 1945 года ўваходзіць на новую жыццёвую дарогу. Працуе ў старостве ў Бельску, а ад верасня 1946 года распачаў працу ў Бельскім павятовым камітэце ППР. З гэтага часу датуецца яго дзейнасць у партыйных органах. Пасля кіруюць яго ў ваяводскую, а пазней і ў цэнтральную партшколы, дзе ўзброіўся ён палітычна-марксісцкімі ведамі. Праца ў ваяводскім камітэце ППР у Беластоку стала для яго сапраўднай жыццёвай школай, бо там прыдбаў ён вопыт і практычнае ўменне партыйнага кіраўніка. Перад аб'яднаннем рабочага руху працуе ён II сакратаром павятовага камітэта ППР у Ломжы, а пасля аб'яднання гэтакую ж функцыю выконвае ён у павятовым камітэце ПАРП у Беластоку. Тут выбіраецца ён І сакратаром КП у Саколцы. Пасаду І сакратара ён пазней выконвае на працягу 4 год у Сямяцічах. На гэтых адказных пасадах атрымоўвае высокую ацэнку ваяводскага камітэта ПАРП.

Яму давяралі таксама адказныя пасады ў ваяводскім камітэце ПАРП. У гадах 1953-1956 працуе ў адміністрацыйным аддзеле, нейкі час кіруе ваяводскім асяродкам партыйнай прапаганды, а ў гадах 1963-67 з'яўляецца намеснікам кіраўніка аддзела прапаганды КВ. У 1967 годзе ў нейкай ступені змяняецца форма яго дзейнасці. Партыя накіравала яго на працу ў прафесіянальныя саюзы. Узначаліў Шымон Шыманюк аддзел ГП прафсаюзаў гандлю і спулдзельчасці. І гэтую функцыю выконвае ён да сённяшняга дня.

Працуючы, ён увесь час папаўняў свае веды. У пачатку пяцідзесятых гадоў кончыў двухгадовую вышэйшую партыйную школу, а ў шасцідзесятых гадах закончыў ён Вышэйшую школу грамадскіх навук пры ЦК ПАРП і атрымаў дыплом магістра эканоміі сельскай гаспадаркі.

Шымон Шыманюк выконваў таксама шмат грамадскіх функцый. Адна з іх для нас асабліва важная. Пачынаючы ад утварэння БГКТ, Шымон Шыманюк



(Працяг са стар. 1)

## ЗЯЛЁНАЕ ЗОЛАТА

га ваяводства наступныя сельскагаспадарчыя культуры: **кукуруза, буракі, люцэрна і канюшына,** змешаная з **травой,** а таксама добра дагледжаная **сенажаць і пасбішчы.** У мінулым годзе, — гаварыў ён, — нашы сяляне дабіліся ў сярэднім 68 цэнтнераў сена з гектара сенажацяў. Калі гэта пералічыць на кармавыя адзінкі і параўнаць са збожжам і бульбай, дык трэба было б атрымаць 55 цэнтнераў жыта або 365 цэнтнераў бульбы з кожнага гектара, каб зраўнаважыць кармавую вартасць аднаго гектара меліяраваных сенажацяў.

Вось дзе яно — зялёнае золата.

— Я згодны з усім гэтым, — гаворыць начальнік Ян Поляк. — Нашы намаганні таксама ідуць у тым жа напрамку. Возьмем хаця і кукурузу. Шырока па вёсках распаўсюдзілі мы новы метад забеспячэння сялян гэтым новым збожжам: гаспадар прывозіць нам **цэнтнер жыта,** а мы яму даем у замен **цэнтнер кукурузы,** проста з рукі ў руку. І эфект ёсць. У мінулым годзе на сялянскіх палях расло ледзь 42 гектары кукурузы, а ў гэтым годзе ўжо амаль **сто га,** не лічачы, вядома, таго, што пасеялі ПГРы, СКРы і прадукцыйныя спулдзельні...

І мы змагаемся за зялёнае золата. У гміне нямала такіх гаспадароў, што маюць па 6-8 гектараў культурных зялёных угоддзяў. З голымі рукамі тут ужо селянін нічога не зможа зрабіць. Патрэбныя машыны. Асноўная з іх — трактарная **растрасалка-заграбалка.** А яе менш чым на лякарства. Патрэбныя трактары, касілкі, сушылкі. Трэба вучыць сялян, як рабіць сіласы з сена...

І гэта якраз асноўнае заданне для сельскагаспадарчай службы ў гміне.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара




У кнігарні імпартных выданняў у Беластоку можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

Акадэмія навук Беларускай ССР, 1979, стар. 584, цана 78 зл.
Шасцідзесяцігадовая гісторыя галоўнага цэнтра навукі ў Беларусі.

**Хомчанка В.,** Выбраныя творы ў двух тамах, 1979.
Том I, стар. 464, цана 28 зл., склалі: аповесць „Чырвоныя хвалі“, у якой аўтар адлюстраваў барацьбу з контррэвалюцыйнымі бандамі на Беларусі, а таксама апавяданні, пераважна з франтавога жыцця ў часе апошняй вайны.
Том II, стар. 576, цана 34 зл., змяшчае апавяданні, напісаныя ў апошнія дзесяцігоддзі, і гумарэскі.

**Калодзежны Л.,** Аўсяны звон, 1975, стар. 128, цана 3 зл. 80 гр.
Першая кніжка прозы мастака па прафесіі. У ёй „прываблівае лірызм, вобразная мова, добрае адчуванне аўтарам прыроды, уменне знайсці дакладную дэталь, некалькімі штрыхамі даць партрэт, стварыць адпаведную настраёвасць“, — сцвярджае ва ўступе вопытны беларускі пісьменнік Т. Хадкевіч.

**Ярашэвіч Э.,** Белыя лугі, 1978, стар. 352, цана 28 зл.
У кніжку ўвайшлі дзве аповесці: „Белыя лугі“ прысвечана справам цяперашняй беларускай вёскі, і „Гэта было нядаўна“ — пра тое, калі пачуццём кахання кіруе халодны разлік.

**Уайлд О.,** Салавей і Ружа, 1978, стар. 176, цана 36 зл.
Арыгінальнае, мастацкае выданне казак англійскага пісьменніка. Цікавыя каляровыя ілюстрацыі мастакоў Б. Заборава і У. Зуйкова. Уступны артыкул Я. Семяжона „Свет дабра і зла ў казках Уайлда“.

**Кнігарня высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні накіроўвайце па адрасу: „Dom Książki“, 15-089 Białystok, ul. Kilińskiego 10.**

(мг)

**ДА 85-АЙ ГАДАВІНЫ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ**




Сёлета спаўняецца 85-ая гадавіна з дня нараджэння выдатнага дзеяча, беларускага паэта, драматурга і пісьменніка — Леапольда Родзевіча. Адыграў ён важную і своеасаблівую ролю ў развіцці беларускай культуры і літаратуры.

Наколькі, аднак, дзякуючы даследаванням вядомага знаўцы заходнебеларускіх спраў А. Бергман, вядомая грамадскасці яго палітычная біяграфія, настолькі вельмі слаба, а хутчэй абсалютна невядомы ён як дзеяч беларускай культуры і стваральнік даволі багатай літаратурнай спадчыны.

Яго палітычная біяграфія з літаратурнай узаемна папаўняюцца і сплятаюцца ў адну арганічную цэласць, ствараючы цікавую, часта крайне кантраверсійную постаць Родзевіча.

Спецыфіка жыцця і творчасці Родзевіча, які дзейнічаў жа ў трох розных эпохах (царскай імперыі, даваеннай Польшчы, савецкай эпосе), матывуе падзел яго спадчыны на 3 перыяды: перыяд „Нашай нівы“ (1910-15 г.г.), Віленскі перыяд (1916-26 г.г.), савецкая эпоха (1926-33 г.). Складанасць умоў, у якіх жыў Родзевіч, дэтэрмінавала характар яго палітычнай і творчай дзейнасці.

У сувязі з няпоўным высвятленнем усіх псеўданімаў Родзевіча, якіх было ў яго шмат, бо каля 25, цяжка вызначыць, калі паўстаў першы яго твор. Існуе затое пэўнасць, што ўжо ў 1912 г., меўшы ледзь 17 гадоў, напісаў ён дасканалую драму „Блуднікі“, і, нягледзячы на як жа малады ўзрост аўтара, драма багатая арыгінальнымі матывамі для беларускай пісьмовасці і наогул яна ва ўсіх адносінах настолькі спелая, што можна трактаваць яе як роўную драме Я. Купалы „Раскіданае гняздо“. У абодвух драмах падобныя матывы, прычым трэба сказаць, што драма „Блуднікі“ паўстала да публікацыі драмы Я. Купалы.

У нашаніўскі перыяд Родзевіч прабаваў сваіх сіл у некалькіх літаратурных напрамках. У адным толькі тыднёвіку „Наша ніва“ апублікаваў некалькі сцэнічных замалёвак, 5 апавяданняў („Стражнік“, „Падданы“, „Ён“ і інш.), 2



*Л. Родзевіч.*

# ТРЫБУНА чытачоў

## АДПАЧЫНАК ЗАСЛУЖАНЫМ РАБОЧЫМ

У лютым заслужаныя рабочыя надлясніцтва Броўск каля Нараўкі адпачывалі на сямідзённай пабыўцы ў Варшаве. З нашага надлясніцтва там былі: Яцэк Янель, Грыша Леўша і Ян Стульгіс. Усе яны вельмі хваляць пабыўку ў сталіцы. Толькі кажуць, што гэтыя сем дзён праляцелі занадта хутка. Выязджала 130 асоб — з усяе Польшчы. Адбылася сустрэча з міністрам лясніцтва, а таксама дыскусія аб жыцці людзей, якія працуюць у лесе.

**УКС**

## КЛОПАТ СТОРАЖУ

У 1975 годзе каля магазінаў Гміннай спулдзельні ў Бельску пачалася пабудова тэкстыльнай крамы. Гаспадаром яе было ВПГВ у Беластоку. Пабудова крамы ішла кульгаючы. Калі крама яшчэ не была закончана, у навагоднюю ноч 1.1.1976 года наведаў яе першы „кліент“ — пажар, які навёў дадатковыя затраты. У карыстанне аддалі краму ў другой палавіне 1976 года. Падзялілі яе на чатыры залы: бялізна, трыкатаж, пасмантэрыя і галантарэя.

Жыхары вёсак, здаючы ў ГСе на скупе хатнюю жывёлу, маглі на месцы купіць усё патрэбнае. Ды доўга гэтак не цешыліся. Ужо другі год стаіць тая крама пустая, невядома па якой прычыне. А да таго начны сторож вымушаны пільнаваць, каб ніхто нічога не ўкраў з яе шкляных вокнаў з прыгожымі надпісамі.

Відаць, ВПГВ з Беластока не мае чым гандляваць у такой краме.

**С. Сцепанюк**

## І ШТО ДАЛЕЙ?

У Бельску на вул. Гагарына каля скрыжавання з вуліцай Кручай стаяць два мураваныя будынкі — тыпу барака. У адным з іх у час пабудовы прадпрыемства „Каро“ быў рабочы магазін. Цяпер у гэтым будынку пуста. Ніхто яго ніяк не выкарыстоўвае. Будынак нішчэе. Нехта павыбіваў у вокнах шыбы, паламалі ў вокнах рамы, дзверы хтосьці выняў і забраў.

Другі будынак „у сырым стане“ таксама стаіць незабяспечаны. І марнуюцца гэтак дзяржаўныя грошы, каб інвестар гэтых будынкаў загаспадарыў іх, а калі непатрэбныя — разабраў. Цяперашні іх выгляд брыдка ўздзейнічае на эстэтыку горада, а таксама дрэнна сведчыць аб гаспадарнасці.

**Іван Кірызюк**

## ШТО З КАЛОШАМІ?

Штораз цяжэй у нашых крамах купіць калошы. З бядою і па знаёмству можна было неяк дагэтуль з-пад прылаўка адну парку дастаць. А цяпер вось прапалі зусім.

Верыць не хочацца, каб іх не прадукавалі. Бо тады ж адкуль бяруць іх спекулянты, якія прадаюць калошы на рынку, беручы па 180 зл. за пару. Варта было б, каб наш гандаль зацікавіўся глыбей гэтым вельмі патрэбным вясковым людзям таварам.

**С. Сцепанюк**

(Працяг са стар. 3)

## ВАСЬКА

Зноў віно, а калі замкнуцца крамы, гарэлка з патаемкі.

Наступны дзень не розніцца ад папярэдняга, можа толькі тым, што Васька не мае ўжо свайго кажуха, які прадаў у сераду на кірмашы, калі забракла грошай з зарплаты. Ходзіць цяпер у падношанай куртцы.

І так ляцяць дні і тыдні. Аж у групцы, якая раніцай стаіць на вуліцы, ёсць і Васька. Ён, як і іншыя, расказвае пра свой баль з папярэдняга дня. Але раптам змоўклі. Васька адыходзіць ад групкі, бачыць калегу, які ідзе на працу, а з якім не раз выпівалі, калі Васька яшчэ сам працаваў.

— Чэсць, Грыша, — зачапляе, — пазыч 50 зл., страшна мне кепска, учора так набраўся.

— Ідзі на работу альбо красці, — адказаў Грышка і сеў у пад’ехаўшы аўтобус. Рыба не ўзяла...

**Падглядальнік**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Т. з’яўляецца студэнтам права. Зразумела, што не працуе і не будзе ў будучыні працаваць у сельскай гаспадарцы. Вядома, што гаспадарку наследуюць толькі тыя, што працуюць на гаспадарцы, або яшчэ непаўналетнія. Т. споўнілася ўжо 20 год. Ці прыслугоўвае яму права на спадчыну сельскай гаспадаркі, на якой астаўся сын спадкадаўцы, які працуе ў сельскай гаспадарцы?

АДКАЗ: Наследнікамі сельскай гаспадаркі могуць быць не толькі сяляне, якія працуюць на гаспадарцы або ў сельскагаспадарчым кааператыве, але і трывала няздольныя да працы і непаўналетнія або такія, што вучацца ў школах. Закон не патрабуе, каб вучоба ў школе адбывалася з мэтай падрыхтоўкі да працы ў сельскай гаспадарцы. Наследуюць і тыя, што вучацца ў прафесіянальных школах і ва універсітэтах з мэтай падрыхтоўкі да працы па-за сельскай гаспадаркай. Іншая справа, што пры падзеле спадчыны суд прыдзеліць гаспадарку сыну, які працуе на гаспадарцы, а студэнту прысудзіць сплаты. Належнасць яго будзе засуджана ў границах да 1000 зл. у месяц — залежна ад даходаў з гаспадаркі і ад патрэбаў студэнта. Студэнт страціць права на сплаты пасля таго, калі скончыць універсітэт, хоць бы да гэтага часу не атрымаў цэлай належнасці, якая яму прысуджана судом. Сплаты студэнту таксама не належаліся б, калі б ён кінуў вучобу, бо толькі непаўналетнім, г. зн. тым, якім не споўнілася 18 год, прыслугоўваюць сплаты незалежна ад таго, ці яны вучацца, ці не.

**Пра балаган на чыгунцы**

## А ЛЮДЗІ НЕ ПЕРАСТАЮЦЬ НАРАКАЦЬ

Аб спазненні цягніка Кузніца Беластоцкая — Чаромха (ад’езд з Беластока 13.52.) мы ўжо гаварылі. Зараз хачу паказаць тыповы факт, як наша чыгунка „чхае“ на сваіх пасажыраў.

Спяшаюся я вось на вышэй успомнены цягнік з языком на барадзе. Гадзіна 13.45. На пероне ў Беластоку натоўп пасажыраў. Паспеў, значыцца, гавару сабе. Чакаю. 5, 10 мінут. Цягніка не чуваць. І гучнагаварыцелі маўчаць аб спазненні. Пасля 14 гадзіны прыходзіць. Добра, што хоць толькі на паўгадзіны спазніўся, думаю сабе. Пасля 16-ай і так буду ў хаце. Эгэ, зарана я ўцешыўся! Цягнік не крануўся з месца. І ад’ехалі мы наканец у 15 гадз. з Беластока. У Лявіцкіх новая перашкода. Якая? Ніхто не ведае. З Бельска не прыходзіць нейкі цягнік, затое нас даганяе таварны. Пасля больш паўгадзіннага чакання едзем далей. У Страблі зноў чаканне. І ў Бельск дабіраемся а 16.50. У Чаромсе мы пасля 18 гадзіны. Гэта значыць з Беластока 50 км ехалі мы больш як 3 гадзіны. Маланкавая хуткасць! Ды не ў тым справа. Справа ў тым, што нехта без галавы пусціў перад намі таварны поезд (дагналі мы яго ў Грыгораўцах). Каб таварны даехаў у Грыгораўцы, трэба было адклікаць планавы цягнік 15.52 у Чаромсе. І ў выніку чыгуначнікі з Чаромхі пасля працы дабраліся дамоў з 4-гадзінным спазненнем.

Людзі чакаюць ад Цэнтральнай дырэкцыі дзяржаўнай чыгункі ў Варшаве ўрэгулявання курсавання беластоцкіх паяздоў.

**(ус)**

## НЕВЫГОДНАЯ ЗМЕНА

Ад восені мінулага года чыгуначныя ўлады „выдатна палегчылі“ жыццё шматлікім жыхарам Белавежы, Гайнаўкі і навакольных вёсак, якія хочуць раннім цягнікам даехаць у Беласток. Вось непасрэдны цягнік з Белавежы ў Беласток, які адыходзіў з Белавежы а 5.57, цяпер едзе толькі да Бельска. Там больш як палавіна падарожных павінны перасядаць на цягнік Люблін-Беласток, які і без таго ўжо перапоўнены.

Змену гэтую ўвялі толькі таму, што „люблінак“ пастаянна спазняўся (а чаму? — гэтым улады не зацікавіліся).

Прапаную, каб дырэктар ДРКП у Беластоку спрабаваў калі-небудзь дабрацца раннім цягнікам з Белавежы ў Беласток. Пачуе тады ўласнымі вушамі, з якім „энтузіязмам“ прынялі людзі ўведзеную змену. І няхай толькі не выяўляецца хто ён, бо не гарантую, што цэлы даедзе ў Беласток.

## ВАЗЬМІЦЕ ПАД РАЗВАГУ!

Гайнаўка. Горад прамысловы. Развіваецца ўсебакова. Апрача рабочых з самой Гайнаўкі на прадпрыемствах горада працуе шмат даязджаючых з навакольных вёсак, а нават з Бельска. Усе яны даязджаюць аўтобусамі, або паяздамі. І тут то бяда тым, хто даязджае поездам. Колькі ж часу трацяць яны на даезд і чаканне! Запытаеце, чаму? Ці таму, што паязды ў нас страшэнна спазняюцца? Гэта яшчэ паўбяды. Іншая нас мучыць цяпер справа. Менавіта расклад прыезду і ад’езду паяздоў. Ён неадпаведны. Зранку, можна сказаць, ён добры. На працу паспееш на 7 гадзіну. А вось пасля працы бяда. Канчаеш працу а гадз. 15. А калі едзеш дамоў у напрамку Бельска, трэба чакаць поезда да гадз. 17.25. Трошачкі гэта замнога, як на кожны дзень. А калі яшчэ той поезд спозніцца, што бывае вельмі часта, тады ўжо бяда, і то яшчэ якая! Ведаеце, пэўна, якая ў Гайнаўцы пачакальня ПКП. Маладыя могуць і на каву скочыць у горад. Найгорш старэйшым і зімою. Летам інакш, можна і пад дрэвам пачакаць. А калі сонейка прыгрэе і птушка заспявае над галавой, і пахрапець можна.

Але ўсё ж людзі кіруюць словы гэтыя да Беластоцкай ДРКП, каб узяла пад развагу іхнія пажаданні і злажыла новы расклад паяздоў.

**Г. Мароз**




**Іван Ігнацюк**, Люблін. „Пішу я да вас, бо маю такую ўнутраную патрэбу. Я звязаны з вамі пачуццямі і любоўю да роднай падляшскай старонкі. Пасылаю вам адзін артыкульчык, напісаны беларускай моваю. Пастараюся дзешто з фальклору Падляшша дасылаць. Крыху мне цяжка пісаць па-беларуску. Не маю ані граматыкі, ані слоўніка, ані ніякага падручніка беларускай мовы. Пішу, вывучаючы гэтую мову, таму прабачце за памылкі. Буду вам сардэчна ўдзячны, калі зможаце прыслаць мне нейкі падручнік па беларускай мове, які выходзіць у Польшчы для сярэдніх школ.

Я ў далейшым збіраю народныя песні. Запісваю іх на магнітафонную плёнку, толькі няма каму да гэтых песень запісаць ноты. Панфілюк мае рацыю, што песня „Ты казала“ ўкраінская, толькі не ведаю, ці не літаратурнага паходжання. Я яе не раз чуў і бачыў у спеўніку, толькі ніяк цяпер не магу знайсці таго спеўніка. Добра помню фразу, якая паўтараецца пасля кожнай зваротکі:

Тысь мэнэ підманула,
Тысь мэнэ підвэла,
Тысь мэнэ молодого
З ума, з розуму звэла.

Вы яе надрукавалі не ад пачатку. Калі знайду поўны тэкст, прышлю вам. Што да песні „Зайграй ты, девчыно, в зеленом садочку“, то я такую песню запісаў ад Анастасіі Петручук у сяле Яноўка, ваяводства Бяла Падляска, у жніўні 1973 года. Вось словы песні, якія пішу вам беларускім алфавітам:

Згадай жэ, муй мылый, ў вішнёвум садочку,
Як мы там сыдылы колысь,
Як мы там сыдылы, нам зоры свытылы,
Шчэй місяць на нас споглядаў.
або
Квыткы нам хылылысь і штось нам шэпталы,
А ты мэнэ всё й нэ пускаў

Згадай жэ, діўчыно, ў вішнёвум садочку,
Як мы там сыділы коліс,
Ты пісню спывала й на гітары грала,
А я тобі ў вочы дывіўсь.

Ты пісню скончыла й гітару зложыла,
Схылылась на груды мэні,
А я тэбэ ўзяўшы до сэрця прыгоршы
І мы поробылысь німы.

Згадай жэ, мій мылый, якій ты быў добрый,
Якій буў прыхыльный мэні,
У той вэчыр чаріўный ты ўзяў мое сэрцэ,
Ты ўзяў мою душу зоўсім.

## ЧАЛАВЕК ДОБРАЙ РАБОТЫ

Многія жыхары Дубіч Асочных з’яўляюцца прыкладнымі гаспадарамі. Прадстаўляю сёння аднаго з іх. Чалавекам добрай работы ў нас з’яўляецца Уладзімір Ігнацюк. Ён не толькі добры гаспадар, але і майстар на ўсе рукі. Мае сваю дахаўчарку, у якой нарабіў сам даховкі на крышы для ўсіх сельскагаспадарчых будынкаў. Няма яму работы, якой бы ён не зрабіў. У яго ёсць уласная спавачка, якая надта прыдаецца ў вясковым жыцці.

За зіму зрабіў ён 60 метраў жалезнай агароджы і чатыры брамы. Машыну, калі сапсуецца, ён сам наладзіць. Заўсёды ў вольную хвіліну яго можна застаць, як майструе нешта. Мае ён у гаспадарцы трактар і машыны, вельмі цяпер патрэбныя. Ёсць у яго і млын, у якім меле сабе і іншым жыхарам муку. Аднаго разу запытаў я ў яго, дзе вучыўся стольким прафесіям? А ён мне на гэта адказаў: „Няма такой работы, каб чалавек не зрабіў яе, калі хоча“.

**П. Галёнка**

(Працяг са стар. 4)




але мае адносіны да яго закліку адмоўныя. Колькі тут трэба было б змяніць, колькі вывучыць прафесіяналаў, каб у такім кароткім часе маглі яны да кожнага завітаць і электраімпульсійна забіць парася.

**С. Сцепанюк**

✻

Я так пераняўся выказваннем натураліста ў апошніх двух нумарах „Нівы“ аб адносінах разумнага звера да звяроў менш разумных, што проста не ведаю, як коратка і выказаць сваю думку. Рудкоўскін заклікае нас, чытачоў і карэспандэнтаў, каб падтрымалі яго голас вялікага сэрца, у справе гуманнага забівання жывёлы. Так склалася наша жыццё, што чалавек есць мяса. Найгорш з намі хатняй жывёле. Мы яе гадуем, пасем і забіваем, каб самім пасціся. Ды аб гэтым, бадай, няма што гаварыць. Не пры нас пачалося і не на нас кончыцца. Хачу пару слоў сказаць аб людзях, якія не заслугоўваюць, каб людзьмі звацца. Ды адразу тут хачу сказаць, што не напісаў бы ніводнага слова, каб не быў пераканаьы, што такія людзі паяўляюцца сярод нас рэдка.

Мне хацелася плакаць і крычаць на ўсё горла, калі я чытаў пра забіванне звяроў у лесе пры дапамозе розных прыладаў. Ці тыя забойцы ўяўляюць сабе, які боль і якое мучэнне прыносяць яны прыгажунам-звярам, без якіх жыццё чалавека было б нічога не вартае? Нам не было б без звяроў чым цешыцца і захапляцца, ды адпачываць дзе. Ходзячы па полі, ці па лесе, калі ўбачыш зварка або птушку, дык аж на сэрцы лягчэй робіцца. Я ўжо калісьці пісаў пра зязюлю і жаваранка і наракаў тады на штучныя ўгнаенні, дзякуючы якім усё менш і менш чуем гэтых цудоўных птушак. Ды гэтага нельга пазбегчы, калі хочам, каб палі нашы давалі высокія ўраджаі. І з гэтым, хочам ці не хочам, прымірыцца вымушаны. Аднак ніколі нельга прымірыцца з бандытамі, якія па-зладзейску крадуцца па лясах і ставяць петлі ды жалезныя пасткі, якія страшэнна калечаць звяроў і прыносяць ім невыносlівыя мукі. А ўсё ж гэта робяць не для ратавання свайго жыцця, а толькі для таго, каб замучыць іншае жыццё і яшчэ пахваліцца сваёй лоўкасцю ды спрытам. Ці такім людзям прыйдзе калі-небудзь у галаву думка, што яны звычайныя забойцы? На жаль, ім такая думка чужая, бо калі б яна паяўлялася ў іх галовах, то яны напэўна гэтак не рабілі б.

„Натураліст“ піша відаць, як сэрца яго плача. Я чытаю яго і маё сэрца таксама плача. А той, хто забівае, плача, мусіць, толькі тады, калі яму не ўдасца кагосьці скрыўдзіць. Сумны і жаласлівы лёс такіх людзей.

**Васіль Петручук**

Імпартгумар

# ЗБЕГЛАСЯ

Калі надышла пара пачынаць рабочую змену, да самотнага, насупленага брыгадзіра падыйшоў майстар.

— Што ж гэта такое? Не бачу нашай перадавой брыгады...

— Адно да аднаго сабралася...

— Дзе Пятро? Чаму не на рабоце?

— На рэпетыцыі... Сёння ж генеральная. Да агляду мастацкай самадзейнасці рыхтуецца. На першае месца нацэліўся...

— Аксана, мабыць, там жа?

— Вядома.

— А Сцяпан?

— З Нінай і Сяргеем бегаюць.

— Дзе бегаюць?

— На стадыёне. Спартакіяда... Дакладней, Сцяпан і Ніна бегаюць, а Сяргей скача...

— Аляксея чаму няма?

— На канферэнцыі аматараў кнігі...

— А Зіна дзе?

— Яе ж паслалі вывучаць перадавы вопыт.

— А Алег?

— Перадае наш вопыт...

— Давядзецца сёння працаваць табе самому, брыгадзір.

— Не магу...

— Чаму?

— Выклікаюць на злёт рацыяналізатараў...

— Вось бяда... І ўсё ў рабочы час! А тут жа яшчэ трэба тэрмінова кагосьці да падшэфных пасласць! Давядзецца кінуць усё і мне ехаць...

**Г. Пахіленка** (Украіна)




## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Канстанціна Яшчыка з Азяран Вялікіх змяшчаем рускую народную песню*

# ПО ДОНУ ГУЛЯЕТ КАЗАК МОЛОДОЙ

По Дону гуляет казак молодой,
А дева там плачет над быстрой рекой.
„О чем, дева, плачешь, о чем слезы льешь?“ —
А как мне не плакать, слез горьких не лить:
Когда молоденькой, я в люльке спала;
На возрасте стала, к цыганке пошла.
Цыганка гадала, за ручку брала,
Брала за другую, смотрела в глаза:
„Не быть тебе дома замужней женой,
Потонешь, девица, в день свадьбы своей“. —
„Не верь, дорогая, не верь никому,
Поверь, дорогая, лишь мне одному.
Поедем венчаться, я выстрою мост,
Я выстрою мост на тысячу верст“.
Вот слышу, послышу: мосточки гудут,
Наверно, наверно, невесту везут.
Вот конь спотыкнулся и сшибся с моста,
Невеста упала в круты берега.
Сперва закричала: „Прощай, мать, отец!
Второй раз вскричала: „Прощай, белый свет!“
И в третий вскричала: „Прощай, милый мой,
Наверно, наверно, не жить нам с тобой!“

*Первая половина каждой строки повторяется три раза.*






*— Грамадзяне, пацясніцеся яшчэ крыху, адно месца апаражнілася!*




З „Весніка Задрыпоніі“

### ЦІКАВАЯ ІНІЦЫЯТЫВА

Ахоўваючы цішыню і спакой жыхароў дома № 27, энтузіясты арганізавалі начныя пікеты, якія адстрашваюць хуліганаў трашчоткамі, свісткамі і выццём міліцэйскай сірэны.

### ПЫТАННЕ РЫЖАГА АЛЁШКІ

Хто павінен выносіць смецце з хаты — муж ці жонка?

ГУМАР З ПАРАДОКСАМ

### НЕ ДАРАВАЎ

— Ці праўда, што Бог забраў ужо ў цябе трэцюю жонку?

— Праўда, браце. Але я ўзяў сабе чацвёртую. Бярэ Бог — бяру і я.





### ДОКТАР ЗНАХАРУК

— Уяўляеце, доктар, — амаль што залямантаваў пан Варона, увайшоўшы ў кабінет. — Я зусім не магу спаць. Сёння ноччу нават вачэй не звёў.

— Нічога дзіўнага ў гэтым няма. Калі я не заплюшчваю вочы, я таксама не магу заснуць.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Дзеля чаго вы жывеце, што вы робіце для грамадства? — спытаў суддзя ў рэцыдывіста.

— Як што раблю! Вы мяне здзіўляеце, ваша чэсць. Я даю працу паліцыі і суду!

*

У час чарговай сваркі ў кангрэсе тоўсты і высокі сенатар закрычаў свайму праціўніку — маленькаму і худзенькаму чалавеку:

— Я магу праглынуць вас і нават не адчую, што нешта з'еў.

— У такім выпадку, — адказаў той, — у вас у жываце будзе болей мазгоў, чым калі-небудзь у галаве.

*

Наведвальнік працягнуў чыноўніку пачак купюр.

— Што гэта, хабар?! — абурыўся чыноўнік.

— Перапужаны наведвальнік хацеў было забраць грошы назад, але чыноўнік дадаў:

— Ваша шчасце, сін'ёр, што я хабарнік.



*Не мела баба клопату...*

### НЯМА ДУРНЫХ!

У кнігарню зайшла пані Задрыпкоўская.

— Мне трэба лацінскі размоўнік, дзе б былі такія фразы, як „Дзе знаходзіцца аэрапорт?“, „Якім трамваем даехаць да вакзала?“ і г.д.

— Прабачце, шаноўная, але ў лацінскай мове няма гэтакіх слоў, бо ў той час, калі на ёй размаўлялі, у свеце не было ні аэрадромаў, ні трамваяў...

— Гэта немагчыма! Вы нешта блытаеце. Праз два тыдні я еду ў Лацінскую Амерыку, а вы хочаце мяне пераканаць, што там няма трамваяў?!

### У ПОШУКАХ БАЦЬКІ

Зайшоў хлопчык у „Хвілінку“. А там людзей поўна, гудзяць, выпіваюць, закусваюць.

— Гэй, людзі, вы майго таты не бачылі? — крычыць хлопец.

— А хто ж твой тата? — пытае адзін.

— Ды такі самы п'яніца, як і вы! — адказаў хлопчык і пайшоў шукаць бацьку да іншага бару.






### ПАКРЫЎДЖАНЫ ЯНОТ

Пайшла дурная пра Янота слава...
Агульны сход лясны
Заняўся гэтай справай.
Лось-старшыня сказаў:
— Паслухаем Янота,
Калі і што ў яго было там.
Змоўк Лось,
Зірнуў шматзначна на лазіну.
Янот з сівых вусоў змахнуў
слязіну
І так пачаў:
— Сябры!
Мая Янотка —
Агальная, прабачце, ідыётка.
Не адпускае, бач, бо я жанаты,
Пахаласцякаваць
Дзянёк-другі ў Янота-таты!
Ёй мала, што здароўя ёй я зычу,
Ёй падавай на пень усю здабычу.
Жадае, каб яе адну кахаў,
Каб ля яе ўздыхаў,
Каб янацятак нават калыхаў...
Ну, а ў мяне
такая ўжо натура —
Мне волі хочацца,
Мне хочацца культуры,
Карціць схадзіць
З Куніцай на палянку,
Прытупнуць задняю нагою,
Выпіць шклянку...
Жывому, як гаворыцца,
Жывое.
Хіба ж раблю што брыдкае якое?
Нікому не грубіў,
З усімі жартаваў...

Янота сход лясны пашкадаваў.
І нават чуліся пагрозлівыя ноткі
Па адрасу драпежніцы Янօткі.

**Пятро Сушко**




### ПАГРАНІЧНАЯ ПРАБЛЕМА



Сям'я Мацісен спіць у адной дзяржаве, а абедае ў другой. Таму што ўжо на працягу некалькіх стагоддзяў Нідэрланды і Бельгія не могуць удакладніць тут пагранічную лінію. Палавіна сялібы Мацісенаў знаходзіцца ў адной краіне, палавіна — у другой. Пагранічны гарадок Барле-Хертаг, які налічвае 8 тысяч жыхароў, мае ўсё ў двайной колькасці: двух мэраў, дзве паліцыі, два падатковыя ўпраўленні. Катрын Мацісен, бельгійка, якая заўсёды возіцца ў сваёй галандскай кухні, вельмі незадаволена такім становішчам: „Мы павінны дакладна адрозніваць, якія з нашых кароў лічацца бельгійскімі, а якія галандскімі, інакш пры куплі-продажы нас могуць абвінавадіць у кантрабандзе“.

### ЖОНКА Ў АФСАЙДЗЕ

Адзін шведскі балельшчык быў настолькі захоплены трансляцыяй па радыё футбольнага матча, што не заўважыў знікнення жонкі, якая ехала з ім у машыне. Спыніўшыся заправіць аўтамабіль бензінам, ён успомніў, што яшчэ за 90 кіламетраў да гэтай станцыі жонка „выйшла размяць ногі“.




**Сцеражыся аўтамабіля! Купляй ровар.**